# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 11 (70) Лістапад 2012 г.

# 10 СЬНЕЖНЯ - ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА




**10 сьнежня 1948 года Генэральнай Асамблеяй ААН была прынятая Ўсеагульная дэкларацыя правоў чалавека. З 1950 года гэты дзень адзначаецца ва ўсім сьвеце як Дзень правоў чалавека.**

Дэкларацыя зьяўляецца першым міжнародным дакумэнтам, у якім прызнаецца, што асноўныя правы і свабоды зьяўляюцца неад'емна уласьцівымі ўсім людзям і што ўсе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі. Гэтая фраза таксама зьяўляецца заклікам да дзеяньняў, бо абяцаньне, якое датычыцца годнасьці і справядлівасьці, яшчэ далёка ня выкананае ў дачыненьні да кожнага чалавека. Дэкларацыя працягвае заставацца актуальным дакумэнтам, які мае важнае значэньне ня толькі ў пэрыяды канфліктаў і ў грамадзтвах, дзе лютуюць рэпрэсіі, але і ў пэрыяды барацьбы за сацыяльную справядлівасьць і павагу чалавечай годнасьці ў мірны час у наяўных дэмакратыях.

**Недыскрымінацыя, роўнасьць і бесстароннасьць, якія зьяўляюцца ключавымі складнікамі справядлівасьці, утвараюць тую аснову, на якой грунтуецца Дэклярацыя.**

І незалежна ад таго, дзе вы жывяце, колькі ў вас грошай і якіх рэлігійных ці палітычных поглядаў вы прытрымліваецеся, усе пералічаныя ў Дэкляарацыі правы чалавека зьяўляюцца вашымі правамі, усюды і заўсёды.

Калі пасьля Другой сусьветнай вайны была створаная Арганізацыя Аб'яднаных Нацыяў, члены міжнароднай супольнасьці далі ўрачыстае абяцаньне не дапускаць надалей зьверстваў, падобных да тых, што мелі месца падчас гэтай вайны. Сусьветныя лідэры вырашылі дапоўніць Статут ААН дакумэнтам, які гарантуе правы кожнага чалавека ўсюды і заўсёды.

Задуманы імі дакумэнт, які пазьней стаў Усеагульнай дэкляарацыяй правоў чалавека, разглядаўся на першай сэсіі Генэральнай Асамблеі ў 1946 годзе.

Была створаная Камісія па правох чалавека. На сваёй першай сэсіі ў 1947 годзе Камісія ўпаўнаважыла сваіх сябраў распрацаваць тое, што яна назвала «папярэднім праектам міжнароднага біля аб правох чалавека».

Камісія ААН па правох чалавека складалася з 18 сябраў, якія прадстаўлялі розныя палітычныя, культурныя і рэлігійныя традыцыі.

Першы праект Дэкляарацыі быў прапанаваны ў верасьні 1948 году, прычым у падрыхтоўцы канчатковага праекту удзельнічала больш за 50 дзяржаў. У сваёй рэзалюцыі 217А (III) ад 10 сьнежня 1948 году Генэральная Асамблея, якая засядала ў Парыжы, прыняла Ўсеагульную дэклярацыю правоў чалавека; восем краін ня ўдзельнічалі ў галасаваньні, але ніводная краіна не прагаласавала супраць.

Эрнан Санта Крус (Чылі), сябра рэдакцыйнага падкамітэту, пісаў: *«Я выразна ўсьведамляў, што зьяўляюся сьведкам сапраўды гістарычнай падзеі, калі быў дасягнуты кансэнсус у дачыненьні да найвышэйшай каштоўнасьці чалавечай асобы, каштоўнасьці, якая вызначаецца не рашэньнем якой-небудзь зямной улады, а самім фактам існаваньня чалавека, што спараджае неад'емнае права быць свабодным ад патрэбы і прыгнёту і ўсебакова разьвівацца як асобы. У Вялікай залі... панавала атмасфэра сапраўднай салідарнасьці і братэрства паміж мужчынамі і жанчынамі, якія прадстаўлялі самыя розныя колы, гэткага я ніколі больш ня бачыў на ніводным міжнародным форуме".*

**Поўны тэкст Усеагульнай дэкляарацыі правоў чалавека быў складзены менш як за два гады. У той час, калі ўвесь сьвет быў падзелены на два блёкі - усходні і заходні, знаходжаньне агульнага пункту гледжаньня ў дачыненьні да сутнасьці гэтага дакумэнту аказалася надзвычай цяжкай задачай.**

Сёньня Ўсеагульная дэкляарацыя правоў чалавека зьяўляецца дакумэнтам, перакладзеным на найбольшую колькасьць моваў у сьвеце: акрамя шасьці афіцыйных моваў ААН - ангельскай, арабскай, гішпанскай, кітайскай, расейскай і французскай, яна была перакладзеная на мноства іншых моваў, у тым ліку піпіль - мову, на якой размаўляюць прыкладна 50 чалавек у Сальвадоры і Гандурасе.

# Леанід Сьвецік: На Віцебшчыне правы чалавека парушаюцца практычна штодня

*Штогод 10 сьнежня адзначаецца ва ўсім сьвеце як Дзень правоў чалавека. Напярэдадні гэтай даты вядомы віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік адказаў на пытаньні.*

**Леанід Валянцінавіч, дык што ж гэта за сьвята такое – Дзень правоў чалавека? Чаму менавіта 10 сьнежня?**



У гэты дзень у 1948 годзе Генэральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў была прынятая Ўсеагульная дэкларацыя правоў чалавека. З гэтага моманту пачаўся адлік часу, калі паняцьце «правы чалавека» стала заваёўваць палітычную і інфармацыйную прастору плянэты, розумы і сэрцы палітыкаў, грамадзкіх актывістаў і звычайных людзей.

За больш як шэсьць дзясяткаў гадоў людзкой гісторыі гэтая ідэя ператварылася ў агульнаплянэтную ідэалёгію. Дзясяткі тысяч жыхароў розных краін і дзяржаў уцягнуліся ў штодзённую цяжкую барацьбу за зацьверджаньне і адстойваньне эканамічных, грамадзянскіх, палітычных і культурных правоў чалавека. Ахвяруючы сваёй кар'ерай, дабрабытам, а часам свабодай і жыцьцём, гэтыя людзі імкнуцца негвалтоўнымі мэтадамі даказаць урадам, што чалавек мае права на жыцьцё, свабоду і бесьперашкоднае разьвіцьцё і самавыяўленьне ў любых сфэрах чалавечага быцьця.

Не абмінуў праваабарончы рух і нашу краіну. У Беларусі, як і ва ўсіх постсацыялістычных краінах, на пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя ўтварыліся праваабарончыя групы, якія добраахвотна ўзялі на сябе грамадзкія абавязкі абараняць правы чалавека. Вядома, ёсьць праваабаронцы і ў горадзе Віцебску.

**Вы згадалі Віцебск. Але ж найчасьцей, калі гаворка вядзецца пра парушэньне правоў чалавека ў Беларусі, прыгадваецца сталіца. Напрыклад, падзеі, зьвязаныя з Плошчай 2010 году ў Менску. Або судовы працэс над так званымі віцебскімі тэрарыстамі, які адбываўся таксама ў Менску. Дык наколькі актуальная тэма парушэньняў правоў чалавека менавіта для Віцебску?**

На Віцебшчыне факты парушэньняў правоў чалавека праваабарончыя арганізацыі і праваабаронцы фіксуюць практычна штодня. Гэта культурныя, грамадзянскія, палітычныя і эканамічныя правы грамадзян — жыхароў як самога абласнога цэнтру, гэтак і Віцебскага рэгіёну.

Асноўным і адзіным парушальнікам гэтых правоў зьяўляецца дзяржава ў асобе прадстаўнікоў пасялковых, раённых, гарадзкіх і абласных адміністрацыяў, а таксама супрацоўнікі міліцыі, спэцслужбаў, судзьдзі агульных і спэцыяльных судоў.

**Ці можаце прывесьці канкрэтныя факты?**

Гэта зрабіць ня цяжка. Толькі ў бягучым годзе кіраўнікі або намесьнікі кіраўнікоў адміністрацыяў Першамайскага, Кастрычніцкага і Чыгуначнага раёнаў Віцебску забаранілі зладзіць больш за 40 масавых мерапрыемстваў — пікетаў, мітынгаў і шэсьцяў.

Сёлета практычна штомесяц праходзілі палітычна матываваныя судовыя працэсы над грамадзянскімі і палітычнымі актывістамі. Самы гучны з гэтых працэсаў — суд над Сяргеем Каваленкам, які пасьля абвяшчэньня выраку адбыў некалькі месяцаў у калёніі.

Але ж гэта — далёка не адзіны судовы працэс. Адміністрацыйным пакараньням былі падвергнутыя Барыс Хамайда, Яўген Гуцалаў, Алена Семенчукова, Пётар Іваноў, Сяргей Парсюкевіч, Кастусь Мардзьвінцаў, Сяргей Кандакоў, Тамара Кандакова, Віктар Рамнёў, Алег Баршчэўскі, Валер Шчукін, Ганна Гадлеўская і іншыя.

**Дык калі, як Вы сьцьвярджаеце, рашэньні судоў часта бываюць палітычна матываванымі, якім чынам тады віцебчукі ўсё-такі могуць абараніць свае правы?**

Як паказвае праваабарончая практыка, унутры краіны дамагчыся абароны сваіх правоў беларускім грамадзянам надзвычай цяжка. Чыста тэарэтычна такая магчымасьць нібыта існуе, але на практыцы і органы дзяржаўнай улады, і суды падыходзяць да разбору гэткага кшталту спраў фармальна. Асабліва, калі грамадзянскія ці палітычныя правы парушыла дзяржава.

Таму па абарону сваіх правоў грамадзяне, што жывуць у Віцебску, часьцяком зьвяртаюцца ў Камітэт па правах чалавека ААН. Толькі цягам 2012 году ў гэтую міжнародную праваабарончую арганізацыю жыхарамі гораду было накіравана 14 індывідуальных скаргаў, дзьве зь якіх камітэт ужо прыняў да разгляду па сутнасьці.

Улічваючы, што ў ААН ўваходзіць 193 краіны, і грамадзяне гэтых краін маюць права падаваць гэткія пэтыцыі, дык для Віцебску гэта даволі шмат.

**Вы ўсё гаворыце пра правы чалавека. Але ж у цяперашніх умовах большасьць жыхароў Беларусі найперш цікавяць ня нейкія, абстрактныя для іх, грамадзянскія і палітычныя правы, а іхны ўласны дабрабыт. Ці не зьяўляюцца больш важнымі для краіны эканамічныя пытаньні? Справа ў прыярытэтах. Мабыць, кіраўнікам дзяржавы трэба сьпярша забясьпечыць годны матэрыяльны ўзровень жыцьця грамадзян, а ўжо потым можна будзе заняцца і правамі чалавека?**

Гэта няправільны падыход. У гэтым сьвеце ўсё ўзаемазьвязана. Калі ў краіне масава парушаюцца асноўныя правы чалавека, гэтую краіну будуць абмінаць транснацыянальныя кампаніі, буйныя інвэстары, у яе не прыедуць турысты. А гэта ўжо эканоміка ў чыстым выглядзе.

Такім чынам, правы чалавека маюць ня толькі палітычны, але і эканамічны складнік. Дадамо да гэтага іміджавыя страты краіны — дык, атрымліваецца, парушэньне правоў чалавека дорага абыходзіцца краіне.

А наяўнасьць палітычных зьняволеных наўпрост спрычынілася да эканамічных санкцыяў ў дачыненьні да найвышэйшага кіраўніцтва Беларусі і некалькіх дзясяткаў беларускіх фірмаў.

**Ці спрабавалі Вы неяк «даторкацца» да ўладаў, каб растлумачыць ім сытуацыю з правамі чалавека?**

Напрыканцы 2011 году я зьвярнуўся ў Віцебскі абласны выканаўчы камітэт з прапановай арганізаваць сустрэчу прадстаўнікоў органаў улады зь мясцовымі актывістамі праваабарончага руху. У сваім лісьце я прапанаваў сустрэцца і абмеркаваць найбольш праблемныя выпадкі парушэньняў правоў чалавека ў Віцебскім рэгіёне, а таксама наладзіць наўпроставы кантакт паміж праваабаронцамі і ўладай. Аднак улады маю прапанову адкінулі, і сустрэча не адбылася.

**І што рабіць далей?**

Мяркую, праваабаронцам і ўладам нічога не застаецца, як наладзіць канструктыўны дыялёг. Гэта адзіны шлях, прайшоўшы які, можна будзе вярнуць давер да дзяржавы з боку грамадзян, зьмякчыць сацыяльна-эканамічнае і палітычнае напружаньне ў грамадстве.

## У Віцебску забаранілі пікет, прымеркаваны да Дня правоў чалавека



**Намесьніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальля Ляпёшкіна забараніла праваабаронцам зладзіць пікет 10 сьнежня.** Такое рашэньне было прынятае нягледзячы на тое, што імпрэза мусіла адбыцца ў месцы, адмыслова вызначаным уладамі для правядзеньня масавых мерапрыемстваў - у парку культуры і адпачынку Чыгуначнікаў. Прычына забароны пікету - заяўнікі акцыі не заключылі дамоваў на яе абслугоўваньне са службай ЖКГ, палiклiнiкай і міліцыяй.

Міжнародны дзень правоў чалавека 10 сьнежня адзначаецца ва ўсім сьвеце. У гэты дзень у 1948 годзе Генэральнай асамблеяй ААН была прынятая Ўсеагульная дэклярацыя правоў чалавека. На думку віцебскага праваабаронцы Леаніда Сьвеціка, улады, забараніўшы пікет, прысьвечаны гэтай гістарычнай даце, паказалі сваё сапраўднае стаўленьне да правоў чалавека. **"Улады ў чарговы раз прадэманстравалі, што яны не зацікаўленыя ў любой грамадзка-палітычнай актыўнасьці"**, - заявіў ён.

# Камітэт па правох чалавека ААН прызнаў парушэньні ў справе Ўладзіслава Кавалёва

**Камітэт па правох чалавека ААН прызнаў, што адносна Ўладзіслава Кавалёва, якога пакаралі сьмерцю за выбух у менскім мэтро, быў парушаны міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правох.** Такое рашэньне камітэт прыняў 14 лістапада, а 22 лістапада яго атрымалі і прадставілі журналістам маці Ўладзіслава Любоў Кавалёва і праваабаронцы Раман Кісьляк і Людміла Гразнова.


Reuters

Сваё заключэньне па скарзе Любові Кавалёвай і сястры Ўладзіслава — Тацьцяны Козыр далі 18 экспэртаў з розных краін, што ўваходзяць у ААН. Яны адзначаюць канкрэтныя парушэньні, дапушчаныя падчас правядзеньня сьледзтва, суду і выкананьня сьмяротнага прысуду. Галоўнае, што напісана ў гэтым дакумэнце: **«Права на жыцьцё Ўладзіслава Кавалёва было парушанае».**

Юрыст Раман Кісьляк назваў журналістам парушэньні, якія прызналі міжнародныя экспэрты: **«Папершае, адносна Ўладзіслава Кавалёва ўжывалася фізычная сіла, недазволеныя мэтады. Яго прымусілі даць паказаньні супраць самога сябе. Ён пра гэта заявіў падчас судовага паседжаньня. І гэта парушэньне як забароны катаваньня і жорсткага абыходжаньня, так і забароны прымусу даваць паказаньні адносна асабіста сябе».**

Экспэрты ААН пішуць і пра іншыя парушэньні. Напрыклад, іх зьдзіўляе, што амаль усе хадайніцтвы пракуратуры судзьдзі задаволілі, а патрабаваньні адвакатаў — амаль усе адхілілі. І гэта ставіць пад сумнеў, на думку экспэртаў, незалежнасьць і неперадузятасьць суду.

Маці Ўладзіслава Кавалёва заявіла журналістам: дакумэнты з Жэнэвы даюць ёй падставу сьцьвярджаць, што сапраўдныя злачынцы, якія зрабілі выбух у менскім мэтро, да гэтага часу не названыя. «Улады не спрабуюць знайсьці сапраўдных выканаўцаў гэтага страшнага тэракту», — сказала яна: **«Таму мы і сабраліся тут, каб расказаць людзям пра тую сыстэму, якая ў нас цяпер існуе, пра тое „правасудзьдзе“, калі кагосьці проста прызначаюць на ролю вінаватых. І пра тое, як праходзіць сьледзтва і суд і як выносяцца такія страшныя прысуды. На жаль, сьмяротнае пакараньне адбылося. І нават такое рашэньне міжнародных экспэртаў ня верне мне сына. Але я хачу рэабілітаваць сына ў вачох людзей».**

Праваабаронца Людміла Гразнова, якая назірала за працэсам па выбуху ў менскім мэтро, сказала, што яна і тады ня бачыла ў віцебскіх юнаках тэрарыстаў. А рашэньне камітэту ААН толькі пацьвярджае гэтую веру: «Гэтыя дакумэнты праходзяць вельмі дакладную экспэртызу вельмі адукаваных спэцыялістаў. І яны, вядома, робяць дакладныя высновы. **Таму рашэньне ААН — яшчэ адзін важкі дакумэнт на карысьць таго, што той суд ня быў абгрунтаваны, справядлівы, а тыя вынікі, якія ён паказаў, не зьяўляюцца рэальнымі.** І няхай грамадзтва глядзіць на ўсё гэта і робіць свае высновы».

Што тычыцца другога расстралянага па гэтай справе — Дзьмітрыя Канавалава, дык яго родныя скаргаў у ААН не падавалі, і таму разглядалася толькі справа Ўладзіслава Кавалёва.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.